# У ІМЯ БРАТЭРСТВА

## УЛАДЗІМЕР ГЛЫБІННЫ

Ужо здаўна культурная лучнасьць такіх братэрскіх народаў, як беларусы і украінцы, давала аб сабе знаць узаемнымі перакладамі мастацкіх твораў. Наш Максім Багдановіч яшчэ ў нашаніўскі пэрыяд побач з перакладамі сусьветнае клясыкі перакладаў украінскія песьні, вершы Тараса Шаўчэнкі, В. Самійленкі, Івана Франка. Пераклаў Максім Багдановіч і апавяданьне „Муляр" І. Франка, „Каляровыя лісточкі" і „Сьмерць" В. Стэфаніка. Творы Т. Шаўчэнкі й іншых украінскіх паэтаў пераклалі Я. Купала й Я. Колас Перакладзеная на беларускую мову „Энэіда" І.Катлярэўскага прынесла перакладчыку Аркадзю Куляшову нават дзяржаўную ўзнагароду. У перакладзе на ўкраінскую мову Тэрэня Масенкі паэзія Ўладзімера Дубоўкі, асабліва Дубоўкаў верш „О, Беларусь, мая шыпшына", яшчэ ў двацыатыя гады здабыла любоў усяе Ўкраіны. Асабліва заслужыў вялікую пашану сваімі дасканалымі перакладамі беларускіх паэтаў на ўкраінскую мовы выдатны ўкраінскі паэта Максім Рыльскі. Дзякуючы ягонай і йньшых украінскіх паэтаў перакладчыцкай дзейнасьці на Украіне ў 60-х гадох быў выдадзены ладны па памеру зборнік паэзіі Максима Багдановіча на ўкраінскай мове. На вялікі жаль, гэтае выданьне не трапіла замяжу й тут у нас недаступнае для ўкраінскага чытача.

Аднак нашаму Максіму Багдановічу й іншым паэтам, як Янка Купала, Уладзімер Жылка, Натальля Арсеньнева й Масей Сяднёў, пашанцавала. У Заходняй Эўропе пасьля вайны й пазьней у Амэрыцы й Канадзе іх перакладаў на ўкраінскую мову выдатны ўкраінскі паэта, прафэсар унівэрсытэта ў Альбэрце, Др. Яр Славутыч. Вучань выдатных украінскіх паэтаў высокае культуры, М. Рыльскага й Міколы Зерова, заўважаны як паэта яшчэ Т. Масэнкай, Яр Славутыч у друку зьявіўся перад вайною ў дзе-якіх харкаўскіх і кіеўскіх часапісах. Перад вайною апынуўся на Беларусі ў арміі, служыў у сапёрна-інжынернай школе. У часе вайны пабываў у нашым Чэрвені (Ігумэні) й тады-ж запазнаўся з нашым народам і ягонаю моваю. Вольналюбівыя ймкненьні беларускае душы знайшлі ў чулай душы ўкраінскага паэты жывы водгук і запалі глыбокімі пераканаными, што лёс беларускага і ўкраінскага народаў не толькі падобны, але й цесна павязаны агульнымі братэрскімі повязямі. Студыюючы славістыку ў Пэнсільванскім унівэрсытэце ў 1953–1955 гг., дзе здабыў навуковую годнасьць Доктара Філязофіі, а пазьней працуючы ў Амэрыканскай вайсковай школе ў Монтарэі, побач з навуковай і творчай працай, Яр Славутыч шмат увагі аддаваў перакладам беларускае паэзіі. Максім Багдановіч рабіў на яго асабліва вялікае ўражаньне, як паэта красы, творца рознастайных паэтычных формаў, наватар беларускага вершаскладаньня, паэта ня толькі высокародных думак і пачуцьцяў, але й як укладчык новых мастацкіх скарбаў у сусьветную скарбніцу мастацкага слова. Вынікам тае працы было стварэньне Ярам Славутычам цэлага зборніку перакладаў вершаў Максіма Багдановіча на ўкраінскую мову. Тады-ж Яр Славутыч меў намер выдаць той зборнік асобнай кнігай. І толькі матар'яльныя цяжкасьці перашкодзілі тому высокароднаму намеру.

Ад 1960 г. Яр Славутыч працуе ў Альбэрцкім унівэрсытэце й разгарнуў надзвычай плённую творчую й навуковую працу. Багата навуковых нарысаў з галіны ўкраінскай літаратуры й мовы ён надрукаваў у амэрыканскіх і канадзкіх часапісах, браў удзел у шмат якіх навуковых канфэрэнцыях, у тым ліку ў навуковай канфэрэнцыі Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе, гэтак званым Тыдні Беларусаведных студыяў на ўнівэрсытэце Атавы ў красавіку 1975 г., дзе выступіў з дакладам пра мастацкую прозу Ўладзімера Глыбіннага. Апошні на гэтым месцы выказвае ўкраінскаму прафэсару сваю шчырую падзяку і ўдзячнасьць за арыгінальную спробу зразумець і ацаніць тое новае, што ўносіць беларускі пісьменьнік у бачаньне Новага Сьвету.

У 1963 г. у Эдмантоне, Альбэрце, Канада, выйшаў з друку вялікі том твораў Яра Славутыча пад назовам „ТРОФЕІ", у які ўвайшла лірыка 1938–1963 гг. А нядаўна, у 1978 г., выйшаў з друку вялікі прыгожы том твораў Яра Славутыча „ЗІБРАНІ ТВОРИ, 1938–1978". Мне было асабліва прыемна атрымаць ганарова гэтую кнігу з пахвальным надпісам: „Дорогому Проф. В. Сядурі, чудовому письменникові й визначному науковцеві – Яр Славутич, 1979". Але асабліва я ўзрушыўся, калі на балонках 386–391 пабачыў пераклады беларускіх вершаў М. Багдановіча, Я. Купалы, Н. Арсеньневай, У. Жылкі й М. Сяднёва. Прыемна было ўбачыць беларусаў у суседзтве з такімі йменамі сусьветнай літаратуры, што знайшлі дарогу ў украінскі сьвет дзякуючы перакладам Яра Славутыча, як баўгарын Хрысто Ботев, палякі Юліуш Славацкі й Юзэф Лабадоўскі, чэх Яраслаў Вохліцкі, ангельцы Вільям Шэкспір, Эдмунд Спэнсер, Джон Донн, Джон Мільтон, Вільям Вордсворт, Джон Кітс і колькі йншых славутых імёнаў.

Што да саміх перакладаў, дык зьвяртае на сябе ўвагу культура выбаркі твораў для перакладу. З Багдановіча, прыкладам, перакладзены тры вершы: „Пагоня", „Эмігранцкая песьня" і трыялет „Мне доўгае растаньне з Вамі". Але якія вершы! Гэта, можна сказаць, крэдо ўсяго Багдановіча. Нездарма гэты верш першы раз быў надрукаваны ў газэце „Вольная Беларусь" 30 лістапада 1917 г., а чытаўся паэтам у Менскім народным доме „Беларуская хатка" ў канцы 1916 г. Ен зьявіўся вынікам наведаньня паэтаю нашае старое сталіцы Вільні і ўражаньняў, вынесеных ад бачаньня на муру Гострай Брамы высечанага мястовага гэрбу – Пагоні, ваякаў на імкнучых конях. Сам паэта ў аўтографе пакінуў нам запіс собскіх словаў, што „гэрб гэты Вільня атрымала яшчэ за часы Вялікага Княства Літоўскага, і завецца ён Літоўскай пагоняй". У паэтычным уяўленьні паэта адразу ўзьнік патрыятычны вобраз коньнікаў, якія імчацца наўздагон тых беларускіх сыноў і дачок, што з прычыны нацыянальнае нясьведамасьці трапілі ў палон да чужынцаў і страцілі свой нацыянальны воблік, і сваю дзяржаўнасьць.

*Бійце ў сэрцы іх – бійце мячамі,*
*Не давайце чыжынцамі быць!*
*Хай пачуюць, як сэрца начамі*
*Аб радзімай старонцы баліць...*

Здаецца, што з самой глыбіні сардэчнай болі адданага бацькаўшчыне сына вырываюцца тыя словы ахвяраваньня ўсяго сябе на службу роднай справе.

*Маці родная, Маці-Краіна!*
*Не ўсьціішыцца гэтакі боль...*
*Ты прабач, Ты прымі свайго сына,*
*За Цябе яму ўмерці дазволь!..*

Яр Славутыч, як перакладнік паэтычнага тэксту, добра рабіў, што не трымаўся абсалютнае дакладнасьці й не перакладаў слова ў слова арыгінальнага тэксту. Беражлівыя адносіны да арыгінала, неабходнасьць захаваньня мастацкіх кампанэнтаў твору, як і нацыянальных і йндывідуальных асаблівасьцяў і тканіны паэтыкі арыгінальнага твору, не пярэчаць мэтам узнаўленьня тога-ж твору выяўленчымі сродкамі другой мовы. Сіламі талента перакладніка твор гэты ўзнаўляецца на мове ўкраінскага народу й шляхам перавыяўленьня й пераўвасабленьня йдэі й стылю твору йншымі моўнымі сродкамі робіць яго здабыткам ужо ўкраінскае культуры і ўкраінскага чытача. Так творчая індывідуальнасьць перакладчыка становіцца важным фактарам творчага перакладу й ягоная высокая перакладніцкая культура становіцца зарукай творчага посьпеху. Яр Славутыч зусім правільна перадае слова „Літоўская" як „Кривицька" і вельмі ўдала перастварае *гукавы* сэнс вобраза („Срэбнай збруяй далёка грымяць...") у *зрокавы* („Срібна збруя освітлює путь"). Заместа скрупулезнага аналізу ўсіх іншых паэтычных сродкаў мастацкага перакладу з пад пяра Яра Славутыча, мы тут пададзім лепш цалкам пераклад „Пагоні" на украіннскай мове:

ПОГОНЯ

Тільки сердцем тривожним почую,
Як вітчызну оплакує плач, –
Гостру Браму згадаю святую
І комонних, що ринуть навскач.

В білій піні гойдаються коні,
Пориваються й важко хропуть.
Стародавню Кривицку Погоню
Не спинити, не збить, не зігнуть!

В далечінь переможно мчите вы,
Перед вами, за вами – віки.
О, за ким женетеся, як леви,
На які спішите ви шляхи?

Білорусе! Вони понеслися
За твоіми дітьми навздогін,
Що забули тебе, відреклися,
Продали на жорстокий загин.

Бийтэ в серце іх, бийте мечами,
Не давайте чужынцями жить!
Хай дознають, як серце ночами
За вітчизною скорбно болить...

Мати рідна, моя батьківщина,
Полонена ордою сваволь, –
Ти пробач, ти прийми свого сина
І за тебе умерти дозволь...

Все летять, пориваються коні,
Срібна збруя освітлює путь.
Стародавню Кривицьку Погоню
Не спинити, не збить, не зігнуть!

Я думаю, што пераклад Багдановічавай „Пагоні" Ярам Славутычам застаецца трывалым помнікам беларуска-ўкраінскага культурнага супрацоўніцтва й вымены мастацкіх каштоўнасьцяў. Да гэтай катэгорыі належаць і йншыя пераклады Яра Славутыча, як, скажам, „Эмігранцкая песьня" М. Багдановіча. Асэньсаваньне беларускага вершу тут таксама пайшло далей да самае сэрцавіны йдэёвага зьместу. Супрацьстаўленьне бязродных бадзягаў, што ў рамантыцы вандраваньняў страцілі нацыянальнае абліччa й згубілі апошнія лучнасьці з бацькаўшчынай, з аднаго боку, і ўсьведамленьне прычынаў, што змушаюць пакідаць родны край выгнанцаў дзеля браку волі, з другога боку, набывае яшчэ большай выразнасьці шляхам замены Багдановічава слова „хлеба" – словам „воля".

Але ми, що змарніли з відчаю,
Не того бредемо по чужині.
Не покинули б рідного краю,
Якби воля була в батьківщині.

І на бруку, де повідь весела
Велелюдні справляе забави,
Увижаються неманські села
І вогні портовоі Лібави.

І гэтак, як словы Багдановіча ў вершы „Трыялет" просяцца на музыку й змушаюць чытача самому напяваць іх уголас, украінскі пераклад іх музыкай саміх словаў просіцца на камернае выканьне з цудоўным алітэрацыйным і асанансным гучаньнем „чорних кіс".

Моій душі розлука з Вами –
Чорніш від Ваших чорних кіс.
Чому ж недобрий час приніс
Моій душі розлуку з Вами?

Я так поблід від горя й сліз,
Що тріолет почав словами:
Моій душі розлука з Вами –
Чорніш від Ваших чорных кіс.

Не выпадковы й выбар для перакладу верша „Над нядоляй тваёй не заплачу" другога выдатнага беларускага паэта красы й змаганьня, Уладзімера Жылкі. У тым вершы жаноцкі вобраз, як вобраз нацыі, надае высокароднасьці постаці паэта-рыцара, безкампраміснага змагара за волю бацькаўшчыны. Пераклад добра адтварыў змагарову клятву нязьменна заставацца на варце з мячом, караючым за здраду:

Ні на мить не покинем змагання

*(працяг на 6-й бачыньцы)*

# From pages of Byelorussian history...



On the left is a copy of a drawing on an aging parchment depicting a festive entrance of either Mendog (King of Byelorussia/Litva from 1242 to 1263) or one of his successors into a building adorned with "Pahonia" indicating an official state event.

The name of the artist and the exact origin of the drawing are unknown. It was discovered by a Byelorussian historian of the 19-th century, Theodor Narbutt and is thought to be from the 15-th century depicting an event from the 13-th century. The condition of the drawing and the rusty holes in its corners indicate that it was hung for display and at times was washed, pressed and even glued from the back.

## HELP FREE



**MICHAL KUKABAKA**
Byelorussian political prisoner in the Soviet Union

**PLEASE MENTION HIS NAME!**

**Michal Kukabaka** (b. 1936), a laborer. Spent six years in psychiatric prisons (1969-76) for refusing to participate in Soviet elections, acquainting his co-workers with the Universal Declaration of Human Rights, and for writing open letters. Sentenced again in 1979 to three years of prison for his essays, "Human Rights and Detente are Indivisible," "The Stolen Fatherland," and others. Renounced Soviet citizenship and wants to emigrate to any free country. His parents died in WW II and he has no relatives whatsoever.

**His address (in prison): 211440, Vitebskaya oblast, g. Novopolotsk — 35, Uchrezhdeniye UZh 15/10 — "D", USSR.**

**Send this card** to your government, a newspaper, Soviet ambassador, the United Nations, governments of the Byelorussian SSR and the USSR, and anyone who can help. Michal Kukabaka's life is at stake!

**To continue this action** we need your donation: **Committee for Defense of Prisoners of Conscience in Byelorussia** (use abbreviation: Committee for DPCB), 187-06 Hillside Ave., Jamaica, N. Y. 11432, U.S.A.

# У Імя Братэрства

*(працяг з 5-й бачынкі)*

І не здрадим тужавих долонь.
Хто заквітчаний квітом кохання,
Той ненависти знае вогонь!

Що густіше довкола стемніе
І поважчае плин кровотеч,
То палкіше у злеті зміцніе
Мій короткий, караючий меч.

З Янкі Купалы перакладнікам былі адабраныя два вершы раньняга Купалы, якія хоць і гаворацъ пра нахіл паэты ўслухоўвацца ў галасы прыроды (верш „Як я полем іду"), а таксама пра музу паэтаву, што ўбірала ў сябе ўсё народнае гора (верш „Я бачыў"), аднак ніяк не становяць сабою знаных Купалаўскіх шэдэўраў, у якіх голас паэты прагучаў на ўсю моц. Вельмі хацелася-б пабачыць перакладзенымі такія Купалаўскія творы, як „Маладая Беларусь", „Ужо днее", „Забраны край", „Прарок", „Цару неба й зямлі", „Я ад вас далёка", „Роднае слова", „На сход", „Свайму народу", „Спадчына", „Крыўда", „Паўстань з народу нашага прарок", або „Перад будучыняй". Пералік іх можа быць іншым, бо густы перакладчыкаў розныя, але ўсё-ж хацелася-б каб перакладаліся рэчы рэпрэзэнтатыўныя, падобна таму, як верш „Пагоня" надзвычай ўдала рэпрэзэнтуе ўсяго Максіма Багдановіча.

З гэтага гледзішча досыць удала выбраны быў для перакладу верш Натальлі Арсеньневай „Сівой вярбой", у якім коратка, але выразна знайшла свой паэтычны выяў філязофія паэткі, што ўпадобіла сябе сівой вярбе на ўзлоньні прыроды з усіма ейнымі сіламі сокаў, прагай цяплыні, пешчай лета і ўтульнасьцю сьнягоў, пад якімі ня будзе чутно звону людзкага сэрца — гэтай крыніцы, паводле паэтавага азначэньня, „праўды й маны". На жаль, нельга пахвальна адгукнуцца на выбар вершу Масея Сяднёва „Разбітае лётнішча", у якім паэта з жалем апавядае пра разьбітыя на лётнішчы самалёты, якія „глыбока ўрэзаліся ў зямлю, каб не падняцца болей ад зямлі". У Сяднёва можна было адшукаць больш дасканалыя лірычныя споведзі душы чалавечай і аб чалавеку. Але й тое, што зроблена Ярам Славутычам заслугоўвае найвышэйшай ацэны й шчырага ад душы падзякаваньня. Імя Яра Славутыча мае быць упісана залатымі літарамі ў гісторыю дачыненьняў брацкіх народаў.

# Пераход Вуніятаў на Праваслаўе

Недалёка ад гораду Кэмбрыдж у штаце Масачысэц, заснаваўся вуніяцкі манастыр „Новы Скіт". Заргагізаваў яго, з дазволу сваіх уладаў, францішканскі Іярэманах Лаўрэнці Маркузо. Манстыр складаецца з двух асяродкаў, мужчынскага й жаночага ў адлегласьці адзін ад другога ў 5-ці мілях. Пасьля некалькігадовага жыцьця па „вуніяцкаму", ці інакш кажучы па праваслаўнаму абраду, пераканаліся манахі, што „абрад" і чын багаслужэньня неадрыўныя ад веры Царквы, або зьяўляюцца яе выражэньнем. Сваім прыяцелям яны выясьнілі сваё вырашэньне: „Мы прышлі да выснаву, што ёсьць вялікая розьніца паміж нашаю вераю, нашай багаслужбай і нашым царкоўным палажэньнем... Выразна кажучы, мы зразумелі, што мы адарваны ад нашага ўласнага прэданьня й ад ўсіх, хто жыве па ім... Нам стала зразумелым, што такое палажэньне ёсьць духова шкодным, а галоўнае, ашукваючае, як для сябе так і для другіх... Мы таксама зразумелі, што ўвесь дух вуніі, вуніяцтва, не дапрыняцьця для нас... Мы не бяжым ад нікога й ня супраць чаго небудзь, ды нінашто ня скардзімся... Мы проста адчуваем, што нашае праваслаўе — у духу і ў багаслужбе — патрабуе ад нас, каб мы рабілі выснавы, што нашае жыцьцё ў ваўсіх яго праявах, павінна адказваць нашай веры й выяўляць яе... Мы не адчуваем сябе ні лаціньнікамі, ні вуніятамі, і мы ня музэй акрэсьленага абраду. Мы праваслаўныя, былыя адрэзаныя ад праваслаўя. Цяпер настаў час, час прыемлімы, час Божы, вылячыць гэты разрыў у нашым жыцьці й уліцца ў жывое спалучэньне з праваслаўем. Тут нашая будучыня. Нашае мінулае лагічна прывяло нас да гэтага мамэнту. Пасьля гарачых малітваў і спраўджэньня нашага сумленьня, мы выразна адчуваем, што паколькі мы праваслаўныя, дык лагічным крокам нашае месца павінна быць пры Праваслаўнай Царкве."

Пасьля двухгадовых перамоваў, 23 лютага сёлета адбыўся чын пераходу ў Праваслаўную Царкву ў Амэрыцы.

## 'SUN-TIMES' SLANDERS BYELORUSSIAN NATION

*(continued from page 1)*

assume that Mr. Wisuri deliberately intended to belittle the Byelorussian nation and the Byelorussian people.

While Mr. Wisuri is entitled to his personal views, when these views are propogated in a large newspaper in an area populated by many Americans of Byelorussian descent, the *Sun Times* must assume full responsibility for the views of its correspondents which amount to nothing less than deliberate slander against the Byelorussian people — including many of its readers and, no doubt, advertisers.

It is doubtful whether the *Sun Times* would have printed similar remarks concerning the American Independence Day or a call for independent Hungary or Northern Ireland. We suggest that Americans of Byelorussian descent, especially those residing in the Chicago area, protest and boycott the *Sun Times* until a satisfactory apology is received from the *Sun Times*.

## РУСЫФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСІ

*(працяг з 3-й бачынкі)*

Ці гэта ня тая самая, засуджаная Задзіночанымі Нацыямі, крымінальная палітыка гэнацыду, народазабойства?

— *А. Мікуліч*

# Ад РЭДАКЦЫІ

**Прадаецца камплект газэтаў „Беларускі ЧАС", нумары 1—22 уключаючыя першыя 4 тамы. Цана 33 амэрыканскія даляры. Пераплёт і лятунская перасылка каштуюць дадаткова. Просім зьвяртацца ў гэтай справе да рэдакцыі.**

## UKRAINIAN INDEPENDENCE DAY

On January 19, 1980, New York Ukrainians commemorated the 62-nd anniversary of the establishment of the Ukrainian National Republic at a dinner-ball held in the Roosevelt Hotel.

The dinner was attended by some 400 guests, representatives of various nationalities, members of the press, including Dr. Roger Horoshko of the *Byelorussian Times*, and Lieutenant Governor Mario Cuomo who read the Governor's proclamation of Ukrainian Independence Day in New York State. Thereafter, a male quartet and the "Dumka" Chorus entertained the guests with a brief selection of Ukrainian songs.